„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr



# Ніва



№ 18 (114) БЕЛАСТОК, 4 МАЯ 1958 г. ГОД III



*Марыя Рышава працуе настаўніцай у Крынках (Сакольскага павета) і адначасова бібліятэкарам у мясцовай грамадскай бібліятэцы. У яе бібліятэцы ёсць 3.775 тамоў кніжак. У мінулым годзе бібліятэка мела 4 тысячы чытачоў. Марыя Рышава вельмі дакладна вядзе бібліятэку, сочыць за чысцінёй і парадкам.* *Фота — АА.*

## Пакончыць з кампанійнасцю ў працы БГ-КТ

Прайшло ўжо амаль два месяцы ад часу, калі адбываліся канферэнцыі аддзелаў Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

На канферэнцыях БГ-КТ дэлегаты высунулі шмат вельмі цікавых, патрэбных і актуальных прапаноў адносна далейшай дзейнасці Таварыства.

Усіх нас гэта вельмі цешыла.

— Узварухнуліся нашы беларусы, — сцвярджалі мы тады задаволена паціраючы рукі, — ну браткі, цяпер разгорнецца праца.

Нажаль, было гэта толькі ў перадз'ездаўскім перыядзе. Кампанійная праца зварухнула насельніцтва, адбыўся II-гі З'езд Таварыства і ўсё заціхла.

Ну, возьмем хаця-б на прыклад, дзейнасць Беластоцкага аддзела Таварыства ў Міхалове. Некалькі дзён таму пабываў я ў Міхалове, гутарыў са старшынёй праўлення аддзела — Янкам Палоцкім і іншымі членамі праўлення аддзела.

Ад часу канферэнцыі, у Міхалове, не было ніводнага пасяджэння праўлення аддзела, (калі не лічыць, не абавязваючай нікслі, адной гутаркі некалькіх членаў праўлення аддзела), на якім абмеркавана-б канкрэтны план працы аддзела, хаця на бліжэйшы перыяд.

— Яшчэ дагэтуль, — кажа гаварыш Палоцкі, — не прыслана нам ніякіх інструкцый з Галоўнага Праўлення.

Ці-ж для таго, каб распачаць працу ў сваім асяроддзі, трэба так доўга чакаць на інструкцыі «зверху»? Ці-ж не найлепшымі «інструкцыямі» былі канкрэтныя прапановы на канферэнцыі ў Міхалове адносна далейшай працы аддзела.

А хто-ж мае арганізаваць і кіраваць іх рэалізацыяй, як не члены праўлення аддзела, людзі найбольш свядомыя і найбольш актыўныя.

Працы для Беластоцкага аддзела Таварыства ў Міхалове ёсць шмат. I магчымасці разгарнуць яе — вялікія.

Вось хаця-б справа развіцця беларускай асветы ў павеце. У Міхалове ёсць Агульнаадукацыйны ліцэй. Большасць яго вучняў — гэта дзеці сялян з беларускіх акалічных вёсак. Нажаль беларуская мова ў Міхалоўскім ліцэі, яшчэ дагэтуль не здабыла сабе праваў грамадзянства — нараўні з іншымі прадметамі.

Ці-ж не варта пры дапамозе Павятовага Аддзела асветы, вырашыць у канцы гэтую справу? Варта таксама, час-ад-часу, у паразумленні з Аддзелам асветы арганізаваць нарады з беларускімі настаўнікамі. Настаўнікі, пры адпаведным супрацоўніцтве з імі, пры адпаведным кіраўніцтве, маглі-б шмат дапамагчы аддзелу не толькі ў галіне развіцця беларускай асветы, але і наогул у развіцці грамадска-культурнай і гаспадарчай дзейнасці ў нашай вёсцы.

Як вядома, ад даўжэйшага часу ў Міхалове існуе з багатым, навейшым абсталяваннем, Павятовы Дом культуры.

Тут існуе і працуе драматычны, музычны, танцавальны і дэкаратарскі самадзейныя калектывы. Актыўна развівае дзейнасць дзіцячы калектыў ручных работ і іншыя.

Як усім вядома, Міхалова і яго аколіцы — гэта тыпова беларускае асяроддзе. Нажаль у працы ПДК няма нічога беларускага. Не пачуеш тут ніводнай беларускай песні, ніводнай беларускай мелодыі, (хоць ва ўсіх існуючых калектывах ёсць шмат, а то і перавага беларускай моладзі), у бібліятэцы не знойдзеш ніводнай беларускай кніжкі.

Чаму-б праўленню аддзела не паклапаціцца аб тым, каб побач з братняй польскай культурай у Міхалоўскім ПДК развівалася і нашая беларуская культура?

Трэба таксама паклапаціцца і аб тым, каб ПДК стаўся апорай і дапамогай у працы нашых гурткоў мастацкай самадзейнасці і тых, якія ўжо існуюць і тых, якія арганізуюцца. Нават далей, трэба дамагацца, каб ПДК быў інспіратарам у арганізаванні мастацкай самадзейнасці ў нашых вёсках. Гэта з'яўляецца яго абавязкам. Таму-ж ён і называецца Павятовым Домам культуры. Я звярнуў увагу толькі на некаторыя справы ў працы аддзела. Ёсць іх шмат больш і трэба неабходна прыступіць да рэалізацыі іх не чакаючы на інструкцыі Галоўнага Праўлення.

Хаця з другога боку — Янка Палоцкі і не без рацыі. Усё-ж-такі сябры з Галоўнага Праўлення, а асабліва члены Прэзідыума ГП павінны больш цікавіцца працай аддзелаў і час-ад-часу наведаць іх, каб дапамагчы наладзіць інтэнсіўную працу. Нельга зноў чакаць на нейкую кампанію, ці гэта будзе Пленум Галоўнага Праўлення, ці што іншае.

Пара пакончыць з кампанійнасцю і распачаць штодзённую працу сярод нашага насельніцтва, а ёсць яе ў нас вельмі многа.

В. БАРШЧЭУСКІ

## У Дні асветы кніжкі і друку

Як штогод, так і ў гэтым годзе ў нашай краіне будуць праходзіць Дні асветы, кніжкі і друку. У гэтыя дні ад 4 да 18 мая трэба распачаць сталую працу, якая далей пашырала-б наш друк і асвету сярод усяго грамадства.

А працы ёсць шмат. Амаль у кожнай вёсцы ёсць яшчэ многа моладзі, якая нават не закончвае пачатковых школ. Асабліва гэта відна на вёсках Беласточчыны. Ёсць яшчэ многа моладзі і старэйшых, якія зусім не чытаюць кніжак і часопісаў.

У далейшым назіраецца сярод моладзі брак ахвоты да навукі, да пашырэння ведаў. Такія адносіны да асветы назіраюцца і сярод старэйшага пакалення.

Трэба ліквідаваць гэтую адсталасць. А гэтага можам дасягнуць тады, калі мы паўсёдзённа будзем старацца, каб пад кожную стрэху папала добрая кніжка і часопіс. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на прафесіянальныя кніжкі і часопісы — па жывёлагадоўлі, вырошчванню раслін, пчалярстве і г. д. Гэтыя кніжкі дапамогуць сялянам атрымаць больш мяса, малака і хлеба з гектара. Дапамогуць узняць нашу вёску на вышэйшы культурны ўзровень, ліквідаваць распаўсюджванне п'янства і ўсялякія злоўжыванні.

Распаўсюджваючы друк, не трэба забываць і аб сваім часопісе — «Ніве». Няхай «Ніва» знойдзецца побач іншых часопісаў у кожнай беларускай хаце.

Заклікаем усіх актывістаў і дзеячоў Беларускага грамадска - культурнага таварыства ўзяцца дружна за распаўсюджванне друку і за пашырэнне асветы.

УСІМ ЧЫТАЧАМ І СІМПАТЫКАМ «НІВЫ», ЯКІЯ ПРЫСЛАЛІ У РЭДАКЦЫЮ ПЕРШАМАЙСКІЯ ПАЖАДАННІ, ВЯЛІКАЕ ДЗЯКУЙ

РЭДАКЦЫЯ



*Пасадка дрэў.* *П. Сергіевіч. 1950 г.*

**Курсы для беларускай моладзі**

## Цэнная ініцыятыва ЗМВ

Ад 3 да 18 чэрвеня г. г. Ваяводскае Праўленне ЗМВ у Беластоку арганізуе для беларускай моладзі двутыднёвыя, культурна - асветныя курсы.

Курсы адбудуцца ў Сыбе, каля Элку, вельмі маляўнічай, курортнай мясцовасці.

Удзельнікі курса пазнаёмяцца з сваёй роднай культурай, арганізацыяй і кіраваннем харавымі, музыкальнымі і танцавальнымі самадзейнымі калектывамі, з мэтай, каб пасля арганізаваць культурнае жыццё ў сваіх мясцовасцях.

На курс могуць быць прыняты члены і сімпатыкі ЗМВ, ва ўзросце ад 16 да 30 гадоў, якія закончылі 7 клас пачатковай школы. Заявы ўжо цяпер прымаюць Павятовыя Праўленні ЗМВ і аддзелы БГ-КТ. Курс будзе бясплатны. Даезд і прыезд з курса адбудзецца за кошт арганізацыі ЗМВ.

Думаем, што сярод нашай беларускай моладзі не забракне ахвотных закончыць гэтыя карысныя курсы.

(вб)

